



Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 593 Жнівень-Верасень, 2012 г. Год выданьня 63

## Шаноўныя чытачы!

Скончыўся час летніх адпачынкаў, і перад вамі новы чарговы нумар газэты, у якім мы прадстаўляем вам інфармацыі пра падзеі беларускага жыцьця за час з канца ліпеня і за жнівень-верасень бягучага году.

Значная частка газэтных старонак прысьвечаная адметнай падзеі, якая адбываецца што два гады ў жыцьці беларускай грамадзкасьці ў ЗША і Канадзе. На пачатку верасьня ў Таронта адбылася юбілейная 30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Мы пастараліся як мага падрабязьней распавесьці вам пра гэты форум. Шмат хто з вас ня змог паехаць у Таронта, і з дапамогаю газэты вы можаце даведацца, як прайшла Сустрэча, пабачыце на фотаздымках сяброў і знаёмых.

Прабеглае лета было багатае на многія іншыя падзеі грамадзкага жыцьця. Нашым грамадзкім актывістам не давялося шмат адпачываць, бо трэба было сустракаць гасьцей, браць удзел у фэстывалі ў Саўт Рывэры, ладзіць сьвяточныя імпрэзы на нацыянальныя сьвяты і шмат чаго іншага, пра што вы падрабязней прачытаеце ў газэце.

Зьвяртаем вашую ўвагу на каляндар памятных датаў, мы падаем там хроніку за два месяцы з тым, каб вы маглі адзначыць юбілеі, памятныя даты на сваіх імпрэзах, напісаць пра іх у нашу газэту ці нейкім іншым чынам ушанаваць памяць вядомых людзей.

Таксама заклікаем вас да супрацы. Калі ласка, пішыце ў газэту, падавайце навіны, віншаваньні, падзякі, выказвайце свае меркаваньні ці адносіны да тых ці іншых падзеяў. Будзем радыя друкаваць усё гэта на старонках нашай з вамі газэты. Не забывайце таксама падтрымліваць выданьне і фінансавымі сродкамі.

*Рэдакцыя*

# 30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі




З таго часу калі адбылася 1-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі 5-6 ліпеня 1952 году, прайшло 60 гадоў, і сёлетняя юбілейная 30-я Сустрэча яскрава сьведчыць пра тое, што распачатая традыцыя працягваецца і да сёньня. Імкліва бяжыць няўмольны час, зьмяняюцца пакаленьні, але амаль кожныя два гады беларусы Канады і ЗША зьбіраюцца разам, каб пабачыцца зь сябрамі, абмяняцца навінамі, пагаварыць пра будучыню беларускага руху на амэрыканскім кантынэнце.

Ініцыятыва правядзеньня форумаў належыць вядомаму беларускаму дзеячу Вінцуку Жук-Грышкевічу, яе падтрымалі і амэрыканскія беларусы. Першая Сустрэча адбывалася непадалёку ад Ніягарскага вадаспаду, у маляўнічым рэсорце над Вэлянд-каналам. Афіцыйнымі арганізатарамі яе былі Згуртаваньне беларусаў Канады(ЗБК) і Згуртаваньне беларускай моладзі ў Амэрыцы (ЗБМА). Апошнюю з цягам часу замяніла Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА). Так што сёлетнюю Сустрэчу, як і бальшыню папярэдніх, ладзілі разам ЗБК і БАЗА. Але вядома, што большы цяжар падрыхтоўкі ляжаў на канадыйскіх беларусах, якія выступалі ў якасьці гаспадароў. Галоўны беларускі грамадзкі цэнтар Канады знаходзіцца ў Таронта і там гэтыя падзеі адбываліся неаднаразова. Так, 2-я Сустрэча ў верасьні 1956 году праходзіла менавіта ў Таронта. Адметна, што сёлетняя, юбілейная, Сустрэча была арганізаваная таксама ў Таронта ўжо новай беларускай эміграцыяй, якая сьмела ўзяла на сябе гэты нялёгкі абавязак.

Сустрэча адбывалася ў Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры на St. Clarens Ave 524, дзе месьціцца Беларуская царква Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ і грамадзкая заля.

Адкрыла Сустрэчу старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. Валянціна Шаўчэнка. Сп. Валянціна ў сваёй прачулай, сардэчнай прамове прывітала гасьцей ад імя асноўнага арганізатара форуму і пажадала ўдзельнікам пасьпяховай працы, добрых сяброўскіх кантактаў і прыемнага побыту на канадыйскай зямлі. Яна адзначыла, што мэтай сустрэчы ёсьць аб’яднаньне ўсіх беларусаў, незалежна ад таго, ці з’яўляюцца яны сябрамі той ці іншай арганізацыі.

Далей Сьвята распачалося Малітваю за Беларускі народ, якую правёў Уладыка Сьвятаслаў – Першагерарх Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

З прывітальным словам да прысутных зьвярнулася старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп. Івонка Сурвілла. Сп. Івонка згадала пра свой эміграцкі з маленства лёс і пра тое, як яна вельмі рана зразумела ролю, якая прыпадае эмігрантам з паняволеных краінаў: “Роля наша была калісь і фактычна дасюль не зьмянілася – быць голасам анямелага народу, як яго назваў Васіль Быкаў. У заходнім сьвеце мы здольныя адрадзіць страчанае. Мы здольныя паказаць сьвету, які мы працавіты і таленавіты народ... Здабываць прыяцеляў для Беларусі, інфармаваць сьвет пра нашую культуру, адкрываць сьвету сапраўдную Беларусь – гэта ўважаю галоўнай роляю беларускай дыяспары. Абавязкам кожнага з нас ёсьць паказаць сьвету, што Беларусь, пра якую распавядаюць СМІ, гэта ня ёсьць сапраўдная Беларусь, гэта акупаваная тэрыторыя пад ярмом адной сям’і і яе сілавых, наменклятурных і чужацкіх паплечнікаў.

Прыйдзе час, калі роля наша зьменіцца, калі мы зможам перадаць нашаму народу ўсё найлепшае, чаму навучыліся у краінах, дзе

*Працяг на 2-й бачыне*



# 30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі

*Працяг з 1-й бачыны*



*Прамаўляе Валянціна Шаўчэнка*



*Прамаўляе Зянон Пазьняк*

жывем... Нашай роляю тады будзе адкрыць Сьвет беларускаму народу, пра які ён так мала ведае...” На завяршэньне свайго выступу сп. Івонка зьвярнулася да ўдзельнікаў Сустрэчы з заклікам памятаць пра свой абавязак: “Кожная дыяспара ў сьвеце клапоціцца пра свой пакінуты край. Нашым абавязкам ёсьць дагледзець, каб пакінуты намі край ня стаўся страчаным краем!”

Старшыня Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Ганна Сурмач падкрэсьліла асаблівую значнасьць Сустрэчаў у жыцьці беларускай эміграцыі і назвала гэтую традыцыю адным з найбольш важных дасягненьняў беларускай прысутнасьці ў Паўночнай Амэрыцы, якая займе адметнае месца ў гісторыі беларускай дыяспары ў сьвеце. Яна таксама ўзгадала пра тое, што 18 гадоў таму ў 1994 годзе была прысутнаю ў гэтай зале на чарговай Сустрэчы і вітала яе ўдзельнікаў як старшыня Рады Згуртаваньня беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”. Але так сталася, што і ёй давялося самой стацца эмігранткаю, і цяпер яна прывітала гасьцей ўжо ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі — БНФ сп. Зянон Пазьняк таксама прыехаў на Сустрэчу і выступіў са зьмястоўным прывітальным словам.

Далей прамаўлялі лідэры рэгіянальных беларускіх суполак ЗША і Канады. Сп. Пётра Мурзёнак прывітаў удзельнікаў Сустрэчы ад імя Аддзелу ЗБК ў Атаве. Музыкант Хведар Паўлавец перадаў прывітаньне з Лас Вегасу ад сябе і ад знакамітага беларускага гімнаста Віталя Шчэрбы. Сп. Вячка Станкевіч выказаў пажаданьне плённай працы ўдзельнікам форуму ад імя Фундацыі Крэчэўскага зь Нью-Ёрку, Ала Кузьміцкая прывітала прысутных ад беларусаў са штату Нью-Джэрзы (ЗША). Старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА з Нью-Ёрку сп. Таццяна Красоўская распавяла пра дзейнасьць нью-ёрскіх беларусаў у справе захаваньня і падтрымкі беларускай культуры на эміграцыі.

Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» даслала пісьмовае прывітаньне



*Прамаўляе Івонка Сурвілла*

ўдзельнікам Сустрэчы, зь яго зьместам прысутных пазнаёміла добра вядомая ў Беларусі і ў замежжы пісьменніца Вольга Іпатава.

Быў зачытаны прывітальны ліст ад прэм’ер-міністра правінцыі Антарыё сп. Далтана МакГінты.

Грамадзкая заля была прыгожа ўбраная, паўз сьценаў былі арганізаваны выставы мастацкіх твораў, кнігаў, сувеніраў. Дэманстраваліся мастацкія творы Алены Лапко, Аўгені Шаўчэнкі, сясцёр Паліны і Яны Клімавых, Паўліны і Івонкі Сурвіллаў, Ксені Капыткі. Свой асобны куточак заняла выстава вядомай мастачкі-вышывальшчыцы Ірыны Варабей. Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага з Нью-Ёрку прадставіў сваю калекцыю ранейшых беларускіх эміграцыйных выданьняў. Асобна варта згадаць пра творы вядомага ў Беларусі мастака Яўгена Шатохіна, якія былі давезены зь Нью-Ёрку. Мастак там рабіў персанальную выставу і цяпер Бруклінскі аддзел БАЗА прыкладае намаганьні, каб сабраць сродкі на помнік у Беларусі гэтаму заўчасна памерламу на пачатку году



*Прамаўляе Ганна Сурмач*



*Удзельнікі Круглага стала па культуры*

# 30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі



Прамаўляе Тацяна Красоўская

выдатнаму творцу, адданаму беларускаму патрыёту і грамадзкаму дзеячу. Не пакінулі абыякавымі прысутных рамантычныя, яркія творы мастака з Вільні Алега Аблажэя. Шмат што з экспанатаў выставаў можна было і набыць. Асабліва зацікавіў многіх зроблены Галоўнаю управаю БАЗА альбом пра папярэднюю 29-ю Сустрэчу, якая адбывалася ў 2010 годзе ў Саўт Рывэры, яго набывалі на памятку ўдзельнікі той Сустрэчы. На жаль, у напоўненай праграме ня стала вольнага часу на прэзэнтацыю выставаў, і прысутныя мусілі самастойна арыентавацца ў экспанатах і атрымліваць інфармацыю ад непасрэдна прысутных аўтараў твораў ці адказных асобаў.

Пасьля дзеі афіцыйнага адкрыцьця Сустрэчы сп. Валянціна Шаўчэнка выказала шчырую падзяку людзям, якія сумленна і аддана працавалі над там, каб заля ў Таронта была ўтульнай і чыстай, а ежа смачнай. Гэта Юры Шаўчэнка, Надзея Дробіна, Вольга Манькоўская, Тацьцяна Каляда, Ірына Лойка, Натальля Колас, Сяргей Вашкевіч, Аляксандр Бычынскі, Натальля Шпырчэнка, Пётр Усовіч, Ларыса Міхайлава – цяжка пералічыць усіх, хто, шмат не гаворачы, проста рабіў сваю справу на карысць беларускай грамады.

Створаная арганізатарамі цёплая, камфортная атмасфэра спрыяла пасьпяховай канкрэтнай працы ў другой палове дня, якая была прадугледжана праграмаю і была скіравана на абмеркаваньне асноўнай тэмы Сустрэчы - “Праблемы сучаснай беларускай эміграцыі”. Гаворку распачалі сп. Івонка Сурвілла і сп. Зінаіда Гімпелевіч, яны засяродзіліся на сытуацыі, якая ёсьць сёньня у Канадзе, якія ёсьць магчымасьці для працаўладкаваньня і для заладжваньня новага жыцьця для эмігрантаў. Адбыліся тэматычныя Круглыя сталы, дзе ўдзельнікі форуму абмеркавалі такія актуальныя пытаньні як ’’Захаваньне і падтрымка беларускай культуры на эміграцыі’’, ’’Рынак працы”, “Сям’я і эміграцыя’’ і інш. Удалося нават наладзіць онлайн размову з настаўніцаю зь Беларусі Надзеяю Лявончанка, якая гаварыла пра важнасьць нацыянальнага ўзгадаваньня ў сям’і, пра тое, як сувязь з беларускай эміграцыяй у Таронта, дзе жыве ейная дачка і куды яна прыязджала, дапамагла ёй больш зразумець, чым жывуць людзі ў заходнім сьвеце і як трэба выхоўваць дзяцей у школе, каб яны больш ведалі пра іншыя краіны, што дапаможа ім адказна будаваць уласнае жыцьцё.


Міхась Рыкаў і Валянціна Шаўчэнка. Сп. Валянціна ня толькі лідэр беларускай грамады ў Таронта, але мае мастацкі талент і з усёй душэўнай шчырасьцю раскрывае яго ў выкананьні музычных твораў.

На Круглых сталах ішла грунтоўная гаворка пра набалелыя пытаньні, якія даводзіцца вырашаць беларускай эміграцыі. Найперш, пра захаваньне беларускіх цэнтраў у замежжы, на базе якіх вядзецца праца па гуртаваньню беларусаў і захаваньню беларускай культуры, пра неабходнасьць дапамогі новапрыбылым эмігрантам і іх сем’ям, пра падтрыманьне кантактаў з Бацькаўшчынаю. Былі выпрацаваны прапановы для выніковых дакумэнтаў Сустрэчы.

Каб даць магчымасьць гасьцям добра адпачыць пасьля напружанай працы на пасяджэньнях Круглых сталоў, для іх увечары была падрыхтаваная канцэртная праграма. Яна распачалася літаратурна-музычнай кампазыцыяй з удзелам музычнага дуэта з Атавы «Кантабіле» (скрыпачка Улада Шамецька і гітарыст Міхась Рыкаў), Юрася Шамецькі і Пятра Мурзёнка, якія у музычным суправаджэньні чыталі свае вершы. У другім аддзяленьні канцэрту выступалі Сьвятлана Літвінава зь беларускімі народнымі песьнямі і Валянціна Шаўчэнка, якая выконвала беларускія рамансы. Канцэрт стаўся прыемнаю неспадзяванкаю для гасьцей, ён быў падрыхтаваны на вельмі добрым мастацкім узроўні. Улада Шамецька, якая атрымала музычную адукацыю ў Беларусі, выявіла сябе таленавітаю скрыпачкаю, з натхненьнем і сапраўдным

Працяг на 4-й бачыне


Пятро Мурзёнак, Юрась Шамецька і дуэт “Кантабіле”


Сьвятлана Літвінава

# 30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі



*Пілігрымка да Беларускага памятнага крыжа*



*Сп. Юры Шамецька з Атавы прэзэнтаваў сваю першую кнігу лірычных вершаў з сымбалічнаю назваю "Шлях да вяртаньня".*

майстэрствам яна выконвала як клясычныя пьесы, так і беларускія мэлёдыі. Пад час выкананьня папулярнай песьні "Жураўлі на Палесьсе ляцяць" яна, віртуозна валодаючы смычком, перадала трымценьне жураўліных крылаў. Гэта пакінула надзвычайнае ўражаньне.



Сьвятлана Літвінава ня раз ужо радавала нас сваімі сьпевамі, калі выступала на папярэдніх Сустрэчах. Былая салістка хору Цітовіча, яна прафесійна валодае голасам, і беларускія народныя песьні ў яе выкананьні гучаць асабліва прыгожа і непаўторна. Заля была захопленая і ўсьлед Сьвятлане доўга гучэлі бурныя апладысмэнты.

Доўга яшчэ ў гэты першы вечар Сустрэчы ў грамадзкім цэнтры гучала музыка і сьпевы, вяліся шумлівыя гамонкі за сяброўскаю вячэраю, завязваліся новыя сяброўствы, вяліся размовы пра новыя спатканьні.

На другі дзень удзельнікі Сустрэчы ажыцьцявілі пілігрымку да Беларускага Памятнага Крыжа ў мэмарыяльным канадыйскім парку ў Мідляндзе, штат Антарыё, недзе 200 км. ад Таронта. Дабіраліся туды на замоўленым аўтобусе, а шмат хто і на ўласных "калёсах".

На маляўнічым лясістым узгорку над возерам Гурон, на плошчы некалькі гектараў разьмяшчаецца мемарыяльны парк Martyrs' Shrine - Пакланеньня Мучанікам, забітым там за хрысьціянскую веру манахам-місіянэрам і індзейцам-хрысьціянам. На самай гары стаіць прыгожы касьцёл, а вакол разьмешчаныя крыжы, алтары, скульптуры і памятныя знакі розных нацыянальнасьцяў. Думка пра устаноўку там і Беларускага Крыжа высьпявала доўга, і нарэшце ён быў зроблены і ўстаноўлены ў 1988 годзе на славу Богу і Бацькаўшчыне, падзея была прымеркавана да адзначанага тады 1000-годдзя хрысьціянства ў Беларусі. Высьвячэньне Крыжа адбылося 5 верасьня 1988 году пад час 18-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Пілігрымка да Крыжа сталася важнаю часткаю праграмы і сёлетняй Сустрэчы.

Пачалася ўрачыстасьць з малебену, які адслужыў Уладыка Сьвятаслаў. Вандроўнікі памаліліся за беларускі народ, за памяць пра ягоных пакутнікаў, што аддалі жыцьці за Бацькаўшчыну, і за бязьвінных ахвяраў таталітарных рэжымаў. Разам прасьпявалі "Магутны Божа", наш гімн гучэў там асабліва ўрачыста. Згадалася, што на асьвячэньні Крыжа некалі там была прысутнаю і аўтарка гімну паэтка Натальля Арсеньнева. Амаль пры кожным з нацыянальных манумэнтаў пастаўленыя сталы, лаўкі, каб можна было прысесьці, памаліцца, падумаць у цішыні ці, наадварот, правесьці нейкую грамадзкую імпрэзу. Якраз так і зрабілі гаспадары Сустрэчы і запланавалі там наступную частку праграмы. Такім чынам, на ўзлоньні прыроды далей адбылася прэзэнтацыя беларускіх кніжак, выдадзеных у эміграцыі і на Бацькаўшчыне пра эміграцыю. Прэзентацыя была прымеркавана да 130-й гадавіны ад нараджэньня клясыкаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Уступнае слова да імпрэзы зрабіла пісьменьніца Вольга Іпатава.

Сп. Івонка Сурвілла распавяла пра сваю кнігу, выдадзеную ў мінулым годзе ў Канадзе на францускай мове пад назваю "У восем гадоў я была на вайне". Гэта ейныя дзіцячыя ўспаміны апошняга году вайны, якія яна запісала яшчэ ў 1966 годзе. Гэта ўжо другая кніга ўспамінаў сп. Івонкі, першая была выдадзена ў бібліятэцы Радыё Свабода.

Сп. Ганна Сурмач прэзентавала кнігі, якія былі выдадзеныя ці напісаныя ў ЗША і асьвятляюць тэму беларускай эміграцыі, яна падкрэсьліла, што найбольш прадуктыўна ў гэтым накірунку працуе Нью-Ёрскі БІНІМ. Сп. Ганна зьвярнула ўвагу на тое, што важна ня толькі выдаваць кнігі, але і клапаціцца, каб яны траплялі да чытача, каб перадаваліся ў бібліятэкі, а не ляжалі на складах мёртвым грузам, як гэта нярэдка бывае.

Прафэсарка Універсытэта Ватэрлоо (Канада) сп. Зінаіда Гімпелевіч распавяла пра кнігі, якія адлюстроўваюць тэму габрэйскай культуры ў Беларусі і пра тое, што гэтая тэма патрабуе больш шырокага вывучэньня. Яна таксама гаварыла аб сваёй



*Прамаўляе Вольга Іпатава.*

Bielarus7-8-2012 pages1-5 9last_Layout 1 9/26/2012 10:03 AM Page 5





# 30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі



*Пятро Мурзёнак чытае сваю паэму*

працы над кнігаю пра Васіля Быкава, якая была раней выдадзена на ангельскай мове, а цяпер была перакладзена на расейскую.

Сп. Зянон Пазьняк у сваім выступе гаварыў пра сучасны драматычны стан беларускай культуры і мовы і пра выдадзеныя ім асабіста кнігі.

Вядучы імпрэзы сп. Пётра Мурзёнак прэзэнтаваў свой новы ўжо другі паэтычны зборнік “Крыніца”. Заключным моцным акордам ягонага выступу і імпрэзы ў цэлым сталася ўзнёслае аўтарскае прачытаньне ягонай новай паэмы “Дзевятнаццаць”, прысьвечанай Уладзіміру Някляеву і драматычным падзеям сьнежня 2010 году ў Менску.



*Сп. Вячка Станкевіч інфармаваў пра кнігу, напісаную ягонаю жонкаю Джоан, дзе распавядаецца пра той час у іхным сумесным жыцьці, калі сп. Вячка працаваў кіраўніком Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода. Неўзабаве кніга выйдзе з друку, і яе можна будзе замовіць праз інтэрнэт.*

На жаль, не ўсе кніжкі, пра якія гаварылася на прэзентацыі, былі там у наяўнасьці, некаторыя не ўдалося прывезьці ў Канаду, іншыя, выдадзеныя ў Беларусі, яшчэ не дайшлі ў замежжа. Аднак, атрымаўшы на імпрэзе інфармацыю пра новыя кнігі, прысутныя маюць магчымасьць прыстарацца, каб набыць іх для сябе.

Гэты другі працоўны дзень Сустрэчы скончыўся ў добрым настроі, і беларуская дэлегацыя арганізавана прайшла па мэмарыяльным парку зь бел-чырвона-белымі сьцягамі, чым прыцягнула ўвагу шматлікіх наведнікаў, і многа хто зь іх здымаў на фота наша ўрачыстае шэсьце.

Увечары пасьля вяртаньня з Мідлянду фальклёрны тэатар “Яваровы людзі” пад кіраўніцтвам Віялеты Кавалёвай запрасіў гасьцей на сустрэчу ў грамадзкую залю. Там артысты паказалі прэм’еру мюзікла ўласнага аўтарства “То-То-То!” па матывах беларускага фальклёру ў 2-х дзеях з прыгожымі дэкарацыямі і касьцюмамі.

Трэба сказаць, што і гэтая другая ў рамках Сустрэчы мастацкая праграма таксама вельмі ўразіла прысутных. Усё было зроблена на добрым мастацкім узроўні. Мы пабачылі, што канадыйскія беларусы маюць шмат талентаў – пісьменьніцкія і акторскія здольнасьці, добрыя сьпеўныя галасы. Гэта істотна дапамагае ім ладзіць там актыўнае беларускае жыцьцё.



*Прамаўляе Зінаіда Гімпелевіч*



*Д-р Занковіч з жонкаю, Сьвятлана Літвінава і Ксеня Нагорная пазнаёміліся на Сустрэчы*

Душою гурта “Яваровы людзі” і ягоным мастацкім кіраўніком зьяўляецца сп. Віялета Кавалёва, колішняя сяброўка “Талакі”. Віялета разам з Валянцінаю Шаўчэнка і дачкою Камілаю былі рэжысэрамі-пастаноўшчыкамі спэктаклю. У ім бралі ўдзел у якасьці артыстаў Вольга і Ігар Філюшкіны, Алесь Рэзьнік, Сьвятлана Макеева, Надзея Дробіна, Валянціна Шаўчэнка, Зьміцер Леановіч, Віялета Кавалёва, Тацяна Каляда, Кацярына Пяткова. Да пастаноўкі таксама ў розных справах спрычыніліся Лэся Марушчак, Натальля Колас, Юры Шаўчэнка, Алена Лявончанка, Ірына Тоўсьцік, Дзьмітры Доўнар. Усім ім гледачы шчыра дзякавалі сваімі апладысмэнтамі.

*Заканчэньне на 6-й бачыне*




*Фальклёрны тэатар “Яваровы людзі”*

# 30-я Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі

*Заканчэньне з 5-й бачыны*



*Сцэна са спэктаклю*

Пасля спэктаклю фольк-гурт "Яваровы людзі" зладзіў для гледачоў вячоркі з танцамі ды сьпевамі. Віялета Кавалёва разам са Зьміцерам Леановічам элегантна вучылі прысутных танцаваць беларускія народныя танцы. Да іх далучыліся астатнія сябры гурта а потым і ўсе ахвочыя да танцаў госьці, так што напрыканцы вечара танчыла амаль уся заля.

Калі вясельле скончылася, і стомленыя госьці ізноў прыселі за сталамі, наперад выйшла ўся даволі шматлікая дэлегацыя ад Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, якая прыехала са Злучаных Штатаў. Ад імя БАЗА старшыня Галоўнай управы сп. Ганна Сурмач падзякавала гаспадарам за добра арганізаваную Сустрэчу, за ўсе праведзеныя імпрэзы, за цёплы прыём і за створаны добры сяброўскі настрой. Амэрыканскія беларусы паведамілі пра тое, што бяруць на сябе абавязак арганізаваць наступную 31-ю Сустрэчу і запрашаюць канадыйскіх беларусаў ужо зараз распачаць разам яе падрыхтоўку.

Па выніках Сустрэчы было праведзена заключнае пасяджэньне, на якім удзельнікам былі прапанаваны праекты двух рэзалюцыяў. Зь невялікімі дадаткамі яны былі прынятыя (поўныя тэксты іх падаюцца ніжэй). Там адлюстраваны пытаньні, якія абмяркоўваліся на форуме. Пад час усёй Сустрэчы мы гаварылі, горача абмяркоўвалі ня толькі праблемы эміграцыі, але і сучасную драматычную сытуацыю на нашай Бацькаўшчыне, пра заняпад там нацыянальнага жыцьця, пра перасьлед тых, хто выступае супроць дыктатуры, згадвалі імёны палітвязьняў і іхныя партрэты віселі ў залі, пра дапамогу, якую можам аказаць змагарам ў Беларусі.

Сьвята закончылася на высокім эмацыянальным уздыме, але было і сумна, што так хутка праляцелі гэтыя прыемныя і плённыя дні ў прыветным коле сваіх суродзічаў, блізкіх сяброў і паплечнікаў. Назаўтра мы пакідалі Таронта з надзеяю на новыя сустрэчы з нашымі канадыйскімі беларусамі. Мы запрасілі іх прыехаць у Нью-Ёрк з мастацкаю праграмаю і спадзяемся, што яны будуць нашымі гасьцямі раней чым праз два гады.

Па дарозе ў Нью-Ёрк шмат гаварылася пра тое, як успрымалася Сустрэча, што было добра, а што і недапрацавалі. Але усе мы сышліся на думцы, што пераважна ўсё было добра арганізавана, недапрацоўкі папраўляліся па ходу. Абодва арганізатары Сустрэчы ЗБК і БАЗА працавалі ў поўнай згодзе і ўзаемаразуменьні. Чарговы раз было падцьверджана, што гэтыя форумы, гэтую традыцыю трэба ўсімі сіламі падтрымліваць і надалей, хаця гэта бывае і нялёгкаю справаю. Трэба прыцягваць да іх падрыхтоўкі больш шырока новую эміграцыю, каб яна набывала вопыт і магла працягваць рабіць гэтую справу далей уласнымі сіламі. Дарэчы, менавіта ў Канадзе так ужо і сталася, што ўсю працу на сябе ўзяла ўжо новая эміграцыя і выявіла сваю адказнасьць і здольнасьць. Дзеля дакладнасьці трэба сказаць, што дэлегацыя са Злучаных Штатаў хаця і была даволі шматлікая, але магла б быць значна большаю, бо шмат хто з моладзі выказваў жаданьне паехаць ў Таронта, але пакуль ня маюць патрэбных дакумэнтаў для выезду з краіны. Не хапала на форуме таксама і больш гасьцей з Бацькаўшчыны, якая і да сёньня яшчэ не адчыніла цалкам свае межы да шырокага сьвету.

*Ганна Сурмач*




*Надзея на будучыню. Жыве Беларусь у Канадзе!*

## Рэзалюцыя № 1

30-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі

Таронта, 2 верасьня 2012 году

Мы, удзельнікі 30-й Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі, абмеркавалі сучасную сытуацыю ў беларускім замежжы – дасягненьні, праблемы, цяжкасьці і перашкоды, якія маюць месца ў жыцьці беларускай эміграцыі на паўночна-амэрыканскім кантынэнце. Цяпер у эміграцыйных асяродках наступіў час вялікіх пераменаў, старэйшае пакаленьне эмігрантаў у большасьці адыйшло, і на зьмену яму прыходзяць новыя маладыя сілы. Мы зьвяртаемся да ўсіх нашых суродзічаў з заклікам прыкласьці ўсе намаганьні, каб захаваць у Паўночнай Амэрыцы і сьвеце беларускую прысутнасьць.

Мы канстатуем, што:

1. Грамадзкае жыцьцё беларускага замежжа будуецца на ідэалах 25-га Сакавіка, шанаваньні і падтрымцы нацыянальнай культуры, спрыяньні дэмакратычным зьменам на Бацькаўшчыне;

2. Даўняя гісторыя, традыцыі ды асягненьні дыяспары і яе асобных асяродкаў у ЗША і Канадзе жывуць і сёньня ў нацыянальных сьвяткаваньнях, рэлігійным жыцьці, пэрыядычных выданьнях, фальклёрных канцэртах, нядзельных школах.

Мы лічым, што паўсюднае яднаньне ў сьвеце, на Радзіме, у далёкім і блізкім замежжы зьяўляецца адной з найважнейшых задач беларусаў на сучасным этапе. Дзеля дасягненьня гэтай асноўнай мэты патрэбна:

1.Захаваць і актывізаваць дзейнасьць існых беларускіх цэнтраў у Канадзе і ЗША.

2.Беларускім грамадзкім арганізацыям неабходна быць лідэрамі беларускага руху ў замежжы, гуртуючы вакол сябе беларускую грамаду; грунтаваць сваю працу найперш на прынцыпах павагі да асобы і да разнастайных меркаваньняў, не зважаючы на розьніцу ў палітычных, моўных, рэлігійных поглядах.

3.Падтрымліваць у беларускіх асяродках за мяжой культуру, гісторыю, мову і традыцыі - важны чыньнік прысутнасьці беларускай нацыі ў сьвеце, выкарыстоўваючы для гэтага ўсе магчымыя формы і сродкі, уключаючы Інтэрнэт і сацыяльныя сеткі.

4.Больш актыўна і настойліва далучаць новую эміграцыю да беларускай грамадзкай працы, аказваць пасільную дапамагу новапрыбылым і іх сем'ям, скіроўваць беларускую моладзь на набыцьцё адукацыі.

5.Інфармацыйна і фінансава падтрымліваць беларускія пэрыядычныя выданьні, асабліва беларускі эміграцыйны друк.

6.Падтрымліваць дзейнасьць Рады Беларускай Народнай Рэспублікі як асноўнага палітычнага цэнтру на эміграцыі.

7.Падтрымліваць сувязі і рэгулярна інфармаваць урады і палітычныя колы ЗША і Канады пра стан з правамі чалавека ў Беларусі, пра мэтанакіраванае зьнішчэньне беларускай мовы і культуры антыдэмакратычным рэжымам Лукашэнкі.

8. Падтрымліваць дзейнасьць беларускіх цэркваў у замежжы, як духоўных цэнтраў і апірышча для эмігрантаў.

9.Трымаць пастаянныя кантакты з Бацькаўшчынай, аказваць падтрымку сілам, якія змагаюцца супраць дыктатуры за незалежнасьць і дэмакратыю.

10.Наша мэта – дабівацца ўмацаваньня сувэрэнітэту і незалежнасьці беларускай дзяржавы, самаідэнтыфікацыі нацыі.

11.Працягваць традыцыю правядзеньня Сустрэчаў беларусаў Паўночнай Амэрыкі, наступную 31-ю Сустрэчу правесьці ў 2014 . годзе ў Злучаных Штатах Амэрыкі.

## Рэзалюцыя № 2

30-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі

Таронта, 2 верасьня 2012 году

Мы, удзельнікі 30-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амерыкі, што адбылася з 1-га па 3-га верасьня ў Таронта, Канада, выказваем сваю салідарнасьць з палітзьняволенымі ў Беларусі, якія пакутуюць за свае палітычныя погляды, за свабодную будучыню нашай Бацькаўшчыны.

Патрабуем ад цяперашніх уладаў Беларусі:

1.Спыніць рэпрэсіі і перасьлед у дачыненьні да актывістаў і дзеячоў апазыцыйных партый і грамадзкіх рухаў;

2.Неадкладна вызваліць усіх палітзьняволеных з турмаў Беларусі.

Свае патрабаваньні мы дасылаем да ведама ўрадаў Беларусі, ЗША, Канады і ў праваабарончыя арганізацыі з мэтаю паспрыяць хутчэйшаму вызваленьню ўсіх палітвязьняў.

# Сьвяткаваньне Дня адраджэньня незалежнасьці Беларусі



26 жніўня 2012 г., у нядзелю, Бруклінскі аддзел БАЗА правеў урачыстае сьвяткаваньне Дня адраджэньня незалежнасьці Беларусі. Паседжаньне адчыніла старшыня Аддзелу сп. Тацьцяна Красоўская. Яна павіншавала прысутных зь вялікім нацыянальным сьвятам і зрабіла агляд хронікі падзеяў, якія прывялі да наданьня Дэкларацыі Незалежнасьці статусу канстытуцыйнай сілы. Прысутным быў прапанаваны відэазапіс гістарычнай сэсіі Вярхоўнага Савету БССР 12 скліканьня, на якой Незалежнасьць Беларусі стала рэальнасьцю "дэюрэ".

З прамовай выступіў сп.Зянон Пазьняк - тагачасны лідэр апазыцыі БНФ ў Вярхоўным Савеце, дзякуючы актыўнай дзейнасьці якой і сталася магчымаю гэтая падзея. Ён падзяліўся ўспамінамі пра тыя часы і згадаў 60-70-я гады, калі ў Беларусі толькі адзінкі людзей верылі ў ідэю палітычнай незалежнасьці краіны і рабілі ўсё магчымае, каб гэту мару наблізіць. Ідэя стала сьцягам, які падхапілі спачатку адзінкі, а потым далучыліся масы, і яны перамаглі. Далей у сваёй прамове сп. Пазьняк нагадаў, што змаганьне за нацыянальную незалежнасьць пачалося адразу пасьля зьнішчэньня Вялікага Княства Літоўскага Расейскай імпэрыяй, і толькі ў 20-м стагоддьдзі, праз 200 гадоў 25 сакавіка 1918 года змаганьне прывяло да абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Быў створаны палітычны ідэал, а 25 жніўня 1991 года – выраშальны этап рэалізацыі незалежніцкага ідэалу, стварэньне і пачатак будаўніцтва рэальнай незалежнай Беларускай дзяржавы. Беларусь ёсьць зараз незалежная дзяржава, прызнаная ва ўсім сьвеце. Цяжкасьці сёньняшняга дня краіны ў тым, што незалежнай Беларускай дзяржавай кіруе антыбеларускі рэжым.

Таксама ў сваёй прамове З.Пазьняк закрануў тэму ролі рэлігіі, царквы ў нацыянальным адраджэньні. БНФ у змаганьні за незалежнасьць грунтаваўся на агульнакультурным падыходзе да ўсіх канфэсій. "Усе канфэсіі, якія ёсьць на Беларусі,–усё гэта ёсьць наша беларуская царква, бо ўсюды гэта ёсьць беларусы, і мы ўсе належым да адной культуры".

Рэжым Лукашэнкі ліквідаваў ранейшы Закон аб рэлігіі, згодна якому была роўнасьць усіх канфэсій, і прыняў Закон, дзе прыярытэт дадзены адной канфэсіі - Расейскай праваслаўнай царкве. І зараз здейнічаюць сілы, якія праводзяць у Беларусі палітыку распальваньня нянавісьці да іншых канфэсіяў. Наш беларускі народ ніколі не дапусьціўся да расколу, да крыві па канфэсійных прыкметах. Палітыка такая зьяўляецца небясьпечнай і антынароднай.

Павінна быць свая беларуская праваслаўная царква, і яна ёсьць – гэта Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква. І яна вернецца ў Беларусь, калі ўсталюецца сапраўды дэмакратычная ўлада. Беларуская царква – гэта частка культуры нашага народу, і міжрэлігійная варожасьць ёсьць недапушчальнаю для нашых традыцый і нашай культуры.

Агульныя каштоўнасьці павінны аб'ядноўваць народ – гэта наша дзяржава, нашая мова, наша культура і наша гісторыя, здабытыя змагарамі на працягу стагодзьдзяў.

Сп. Галіна Пазьняк падзялілася сваім адчуваньнем прыгажосьці беларускай мовы, гаварыла пра асаблівасьці нашай мовы, яе мілагучнасьці і рытмічныя адметнасьці. За часы савецкай імпэрыі, калі тагачасная ўлада імкнулася да зьнішчэньня нашай культуры і мовы, якраз і праводзіліся рэформы па зьнішчэньні самых характэрных яе асаблівасьцяў, скіраваныя на асыміляцыю нашай мовы расейскай. Як ілюстрацыю да згаданых асаблівасьцяў беларускай мовы, яе мілагучнасьці, мяккасьці і прыгажосьці сп. Галіна прачытала цудоўныя вершы зь беларускай клясычнай літаратуры.

На заканчэньне імпрэзы ўсе прысутныя з заміраньнем сэрца праслухалі баладу "Малітва" на верш Я.Купалы ў выкананьні Уладзімера Мулявіна ў відэазапісе.

*Паўліна Гудзей*

# Юбілейны Сабор Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы



21-22 ліпеня 2012 году ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку (ЗША) адбыўся Царкоўны Сабор Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, прысьвечаны юбілеям абвяшчэньня Аўтакефаліі ў 1922 г. і 1942 г. на Саборах у Менску. У працы Сабору прынялі ўдзел Япіскапы БАПЦ – Уладыка Сьвятаслаў і Уладыка Серафім, госьці з УАПЦ у ЗША – Архіяпіскап Аляксандр і Архіяпіскап Макарыёс, сьвятары й вернікі БАПЦ з Англіі, Аўстраліі, Беларусі, Канады і Злучаных Штатаў Амерыкі. Дэлегаты й госьці Сабору абмеркавалі стан Парафіяў і ўсяе Царквы.

Царкоўны Сабор прыняў зьмены й папраўкі да дзейснага Статуту БАПЦ.

Важнай падзеяй Сабору сталася абраньне Першагерарха БАПЦ – Архіяпіскапа Сьвятаслава (Логіна). Ад 31 дэлегата, прысутных на Саборы асабіста і праз упаўнаважаньні, 23 галасы былі пададзены за абранага Першагерарха.

Таксама Сабор абраў новую Раду і Кантрольную Камісію БАПЦ.

У нядзелю адбылася Архірэйская Літургія, у якой прынялі ўдзел нваабраны Першагерарх БАПЦ, Духавенства і вернікі, і на якой сьвятар а.Леанід Акаловіч, настаяцель Парафіі Сьв. Афрасіньні Полацкае ў Менску, быў узнагароджаны санам Пратаярэя.

Пасьля Набажэнства адбыўся сьвяточны абед, дзе вернікі выступалі з прывітальнымі словамі. Сярод пачэсных гасьцей прысутнічала спадарыня Ганна Войтанка, якая брала ўдзел у Саборы БАПЦ у 1948 годзе ў г. Канстанцы ў Нямеччыне, дзе была аднаўлена дзейнасьць БАПЦ на эміграцыі.

# Да Сьветлай Рады БАПЦ у ЗША

Высокаправялебны Ўладыка Сьвятаслаў !
Правялебны Ўладыка Серафім!
Пачэсныя айцы!
Годныя сябры і сябрыні!

Я меў вялікую пашану быць госьцем на вашым Саборы 90-годзьдзя Адраджэньня Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Нью-Ёрку і вітаць Сабор ад імя Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, адроджанай у 1921 годзе ў Кіеўскай Сьвятой Сафіі і закатаванай за Хрыста ў 30-х гадох мінулага стагодзьдзя, як і ваша Сьвятая Царква.

З радасьцю даведаўся аб афармленьні вашым царкоўным Саборам, большасьцю яго ўдзельнікаў, пытаньня Прадстаяцеля (Першаярарха) Вашай Сьвятой Царквы - абраньнем старэйшага па хіратоніі Япіскапа Сьвятаслава і ўздымам яго ў сан Архіяпіскапа.

Я перакананы, што Высокаправялебны Архіяпіскап Сьвятаслаў разам з Правялебным Япіскапам Серафімам, пачэснымі айцамі і, у прыватнасці, зь сябрамі Сьветлай Рады БАПЦ і ўсімі пабожнымі вернікамі, дакладуць сілы і прысьвячэньні для росквіту Сьвятой Царквы Беларускага народа на пасельішчах, а ў вызначаны Ўсемагутным Богам час – і на Вашай Бацькаўшчыне.

Заклікаючы ўсядзейнае Божае дабраславеньне на вашы нарады ў Нью-Ёрку -

*+ АЛЯКСАНДР, Архіяпіскап Уманскі*
*2 жніўня 2012 л.Б.*
*Сабор Сьвятога Апостала Андрэя Першпаклікага – Дэтройт, Мічыган (ЗША).*
*(пераклад з украінскай мовы)*

# Нью-ёрскія беларусы віталі гасьцей з Беласточчыны



У нядзелю 13 жніўня ў грамадзка-царкоўнай залі на Атлянтык Авэню, 401 у Брукліне беларусы Нью-Ёрку віталі гасьцей ад Аб'яднаньня ў карысьць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову (АБ-БА) зь Беласточчыны.

Мэта Аб'яднаньня, якое нядаўна адзначыла сваё 15-годзьдзе, - заахвочваньне дзяцей да вывучэньня сваёй мовы. Бруклінскі аддзел БАЗА запрасіў у Нью-Ёрк групу моладзі і настаўнікаў у складзе 12 чалавек.

Госьці прыехалі ў Нью-Ёрк ня толькі паглядзець "сталіцу сьвету", але, найперш, паказаць амэрыканскім беларусам тое, чаму яны навучыліся на ўроках беларускай мовы. І выглядала гэта ўражліва. Цудоўнае маўленьне, глыбокае адчуваньне беларускай культурнай традыцыі. Праграма іх выступу ў Нью-Ёрку складалася з дзьвюх частак. У першай прагучала кампазыцыя з вершаў Ларысы Геніюш, чый лёс зьвязаны з тымі мясьцінамі, якія зараз непасрэдна мяжуюць з Беласточчынаю, але раней складалі адно цэлае.

Асабліва ўразіла прысутных другая частка праграмы, якая ёсьць цалкам творчым здабыткам гэтага своеасаблівага тэатральнага калектыву пад кіраўніцтвам настаўніцы Аліны Ваўранюк і старшыні АБ-БА Басі Пякарскай.

Абедзьве гэтыя жанчыны, дзеці якіх таксама ўдзельнічалі ў праграме, уклалі шмат душы, часу і ахвярнасьці ў працу зь дзецьмі і моладдзю дзеля таго, каб выхаваць іх ва ўлоньні сваёй роднай культуры. Гледзячы на гэтых маладых людзей, бачыш адразу, што гэта сапраўдная беларуская моладзь, а не артысты, якія іграюць свае ролі. Гэты другі праект мае цудоўную паэтычную, пабеларуску мілагучную назву "Ой, даўно...". Яго аснову складаюць памастацку пададзеныя аповяды пра жыцьцёвыя лёсы людзей, якія былі сабраныя самімі школьнікамі сярод сваіх блізкіх, сяброў і знаёмых. Гэта своеасаблівая праўдзівая гісторыя – драматычная, гераічная, а часам і трагічная, беластоцкага беларускага люду, які жыве на памежжы сусьветаў, дзе межы рэжуць па жывому, дзе ніколі няма спакою, дзе адно пакаленьне магло жыць у некалькіх дзяржавах, не пакідаючы сваёй хаты. Тут улады мяняліся па некалькі разоў, але людзі жылі па-свойму, захоўваючы сваё роднае з пакаленьня ў пакаленьне. І гэтая сувязь не перапыненая да сёньня, бо ёсьць моладзь, якая падрастае на сваёй нацыянальнай глебе і разьвівае сваю культуру далей. Сьлёзы наварочваліся, слухаючы гэтыя жывыя аповяды, бо кожны з нас, беларусаў, пазнаваў у іх абразкі з уласнага жыцьця.

*Выступ гасьцей зь Беластоку*



Асобна варта сказаць пра цудоўнае выкананьне беларускіх народных песьняў, якім суправаджалася выступленьне. Апранутыя ў ільняное ўбраньне дзяўчаты і хлопцы і іхныя аўтэнтычныя сьпевы рабілі ўражаньне рэальнасьці таго жыцьця, якое бруіла ў беларускіх вёсках на Беласточчыне.

Удзячныя слухачы былі глыбока ўзрушаныя пабачаным і цёпла віталі артыстаў. Кіраўнічкі групы сп.сп. Пякарская і Ваўранюк са свайго боку віталі прысутных і распавялі пра іх намаганьні захаваць беларускасьць у Беластоцкім краі. Прывітаньне гасьцям даслалі Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла з Канады і дырэктар Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва Вітаўт Кіпель з Нью-Ёрку, які падтрымлівае даўнія сувязі зь беластоцкімі беларусамі. Са словамі прывітаньня выступілі Зянон Пазьняк і айцец Леанід Акаловіч, які дабраславіў моладзь на далейшыя посьпехі ў іх працы дзеля захаваньня беларускасьці ў Польшчы.

Прадстаўляла гасьцей доктар Ала Орса-Рамана, яна была галоўнай адказнаю асобаю за прыём дэлегацыі і зрабіла ўсё магчымае, каб ім пачувалася ў Амэрыцы ўтульна і цікава. Спадарыня Ала згадала пра тое, што яе сяброўства зь беластоцкімі беларусамі пачалося напрыканцы 80-х гадоў, калі сёньняшнія госьці яшчэ не нарадзіліся, а іх бацькі былі маладымі. Тады ўпершыню ў Беласток прыехала танцавальная група "Васілёк" зь Нью-Ёрку. І тут неспадзяванкаю для прысутных сталася тое, што сп. Ала прадставіла гасьцей у беларускіх нацыянальных строях, якія аказаліся былымі танцорамі "Васілька". Такая вось атрымалася сустрэча пакаленьняў.

На завяршэньне сустрэчы малодшым гасьцям былі падараваныя сувэнірныя кубкі ад БАЗА, а старэйшым – Беларуска- ангельскія слоўнікі.

Выступ у Нью-Ёрку быў апошнім у праграме візыту. Перад гэтым госьці выступілі 4 жніўня на Беларускім фэстывалі ў Саўт Рывэры, дзе паказалі музычны спэктакль "Цацачная крама" аўтарства Леаніда Дранько-Майсюка, музыка Ганны Бабік. Спэктакль меў там вялікі посьпех, і беластоцкую моладзь віталі вельмі сардэчна. На наступны дзень – 5 жніўня артысты прыехалі ў Гайленд Парк, дзе выступілі ў гра-



*Госьці з Беластоку зь нью-ёрскімі беларусамі*

мадзка-царкоўнай залі Беларускай царквы і таксама былі прынятыя зь цеплынёй і ўдзячнасьцю.

Прыезд гасьцей зь Беластоку стаўся адметнаю падзеяю ў грамадзкім жыцьці беларусаў у Амэрыцы. Як бы падыхнула ветрыкам з Бацькаўшчыны, якая так блізка ад Беластоку, але якая таксама жыве і там высілкамі гэтых цудоўных людзей. Няма сумневу, што ад гэтай сустрэчы застануцца ў нас самыя добрыя ўспаміны, завяжуцца новыя кантакты і плённае далейшае супрацоўніцтва.

Жадаем нашым гасьцям, а цяпер ужо і блізкім сябрам, трымацца абранага шляху, працягваць творчыя пошукі, знаходзіць новыя формы і магчымасьці зацікаўліваць дзяцей і моладзь да вывучэньня і захаваньня беларускай культуры і сваёй нацыянальнай існасьці.

*Ганна Сурмач*

# Каляндар памятных датаў

## Верасень 2012

**1 верасьня** – Сусьветны дзень міру

**3 верасьня** – 85 гадоў таму, у 1927 годзе, нарадзіўся Алесь Адамовіч, пісьменьнік, грамадзкі дзеяч

**4 верасьня** – 95 гадоў таму, у 1917 годзе, у Слуцку пачаліся заняткі ў першай беларускай гімназіі, заснавальнік і першы дырэктар Радаслаў Астроўскі

**4 верасьня** – 20 гадоў таму, у 1992 годзе, у Таронта памёр Сяргей Хмара (Сіняк), пісьменьнік, паэт, журналіст, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе

**4 верасьня** - 15 гадоў таму, у 1997 годзе, памёр Міхась Раманаюк, мастацтвазнавец, мастак, этнограф

**5 верасьня** – 95 гадоў таму, у 1917 годзе, нарадзіўся Язэп Сажыч, дзеяч эміграцыі ў ЗША, старшыня Рады БНР у 1982-97 г.г.

**5 верасьня** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, расстраляны Анатоль Дзяркач (Зіміёнка), паэт, сатырык, гумарыст

**5 верасьня** – 60 гадоў таму, у 1952 годзе, каля вёскі Самалі Маладзечанскага раёну былі забітыя Іван Будкевіч і Міхась Петрусевіч – удзельнікі дэсантнай групы Янкі Філістовіча

**8 верасьня** – Міжнародны дзень салідарнасьці журналістаў

**10 верасьня** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, расстраляны ў Комі АССР Язэп Мамонька, палітычны дзеяч

**11 верасьня** – 20 гадоў таму, у 1992 годзе, у Наваградку адкрыўся гісторыка-краязнаўчы музэй

**14 верасьня** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, расстраляны ў Ірбіце (Свярдолўская вобл.) Сяргей Астрэйка, паэт, мовазнавец

**15 верасньня** – 150 гадоў таму, у 1862 годзе, памёр Уладзіслаў Сыракомля, беларускі і польскі паэт-гуманіст, пісьменьнік, публіцыст

**17 верасьня** – 100 гадоў таму, у 1912 годзе, нарадзіўся Максім Танк(Скурко), паэт, грамадзкі дзеяч

**17 верасьня** – 90 гадоў таму, у 1922 годзе, нарадзіўся Уладзімір Калесьнік, празаік, літаратуразнавец, крытык

**18 верасьня** – 20 гадоў таму, у 1992 годзе, памёр Ян Скрыган, пісьменьнік, перакладчык, вязень ГУЛАГу

**19 верасьня** – 45 гадоў таму, у 1967 годзе, у Полацку заснаваны гісторыка-культурны музэй-запаведнік

**22 верасьня** – 95 гадоў таму, у 1917 годзе, памёр Ігнат Буйніцкі, актор, рэжысэр, пачынальнік беларускага нацыянальнага тэатру

**22 верасьня** – 40 гадоў таму, у 1972 годзе, заснаваны ў Стаўбцоўскім раёне Коласаўскі заказьнік

**24 верасьня** – 110 гадоў таму, у 1902 годзе, нарадзіўся Аляксандр Махноўскі, педагог, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**26 верасьня** - 10 гадоў таму, у 2002 годзе, памёр Аляксандр Шыдлоўскі, культурны дзеяч, кампазытар

**27 верасьня** – 40 гадоў таму, у 1972 годзе, у Мюнхене памёр Сымон Кандыбовіч, грамадзка-палітычны дзеяч

**27 верасьня** – 15 гадоў таму, у 1997 годзе, у Полацкі Спаса-Эўфрасіньеўскі манастыр урачыста перанесены вобраз Крыжа Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай

**28 верасьня** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, быў расстраляны Уладзіслаў Галубок, пісьменьнік, рэжысэр, актор, тэатральны дзеяч

**29 верасьня** – 30 гадоў таму, у 1982 годзе, памёр у Нью- Брансвіку Зьміцер Сямёнаў, літаратар, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**30 верасьня** – 120 гадоў таму, у 1892 годзе, нарадзілася Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая), грамадзка-культурны дзеяч

## Кастрычнік 2012

**1 кастрычніка** – Міжнародны дзень музыкі

**3 кастрычніка** – 90 гадоў таму, у 1922 годзе, нарадзіўся Міхась Навумовіч, мастак, дзеяч эміграцыі ў Францыі

**5 кастрычніка** – 140 гадоў таму, у 1872 годзе, памёр Іосіф Гашкевіч, дыплямат, мовазнавец, дасьледчык Японіі і Кітая, натураліст, пахаваны ў Астраўцы.

**6 кастрычніка** – 495 гадоў таму, у 1517 годзе, Францішак Скарына ў Празе выдаў “Прытчы Саламона”

**6 кастрычніка** – 250 гадоў таму, у 1762 годзе, мястэчка Мядзель атрымала магдэбургскае права

**7 кастрычніка** – 100 гадоў таму, у 1912 годзе, нарадзіўся Юры Попка, грамадзкі дзеяч, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне

**10 кастрычніка** – 45 гадоў таму, у 1967 годзе, у Гданьску заснавана Беларускае грамадзка-культурнае таварыства

**15 кастрычніка** – 195 гадоў таму, у 1817 годзе, памёр у Швайцарыі Тадэвуш Касьцюшка, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ, кіраўнік паўстаньня 1794 году, удзельнік вайны за незалежнасьць у ЗША, нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі ( пахаваны ў Кракаве ў Вавельскім замку)

**20 кастрычніка** – 120 гадоў таму, у 1892 годзе, нарадзіўся Янка Тарасевіч, рэлігійны і грамадзкі дзеяч эміграцыі ў Канадзе, Швэйцарыі і ЗША, тэоляг

**21 кастрычніка** – 95 гадоў таму, у 1917 годзе, у Петраградзе выйшаў першы нумар газэты “Беларуская крыніца”, пазьней выдавалася ў Вільні да ліпеня 1940 году

**22 кастрычніка** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, нарадзілася Надзея Груша, дзеячка эміграцыі ў Аўстраліі

**22 кастрычніка** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, у Менску расстраляны Фларыян Ждановіч, актор, рэжысёр, тэатральны дзеяч

**22 кастрычніка** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, у Сьвярдлоўскай вобл. расстраляны Лукаш Калюга, пісьменьнік

**22 кастрычніка** – 55 гадоў таму, у 1957 годзе, памёр Аляксандр Савіч, апалягет Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы

**27 кастрычніка** – 65 гадоў таму, у 1947 годзе, у Лёндане заснавана Беларуская каталіцкая місія візантыйскага абраду

**28 кастрычніка** – 10 гадоў таму, у 2002 годзе, памёр Мікалай Рулінскі, афіцэр Беларускай Краёвай Абароны, дзеяч эміграцыі ў Вільні

**29 кастрычніка** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, у Менску цягам адной ночы былі расстраляны 22 беларускія літаратары, навукоўцы і грамадзкія дзеячы

**30 кастрычніка** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, расстраляны 32 чалавекі вядомых беларускіх творчых і грамадзкіх дзеячаў

**31 кастрычніка** – 80 гадоў таму, у 1932 годзе, памёр Кіпрыян Кандратовіч, генерал, міністр БНР

**31 кастрычніка** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, расстраляны Антон Баліцкі, грамадзка-культурны дзеяч

**31 кастрычніка** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, нарадзіўся Яўген Кулік, мастак, грамадзкі дзеяч

**31 кастрычніка** – 65 гадоў таму, у 1947 годзе, выйшаў першы нумар газэты “Бацькаўшчына” ў Мюнхене

**31 кастрычніка** – 20 гадоў таму, у 1992 годзе, памёр Міхась Ткачоў, гісторык, археоляг, пэдагог, грамадзка-палітычны дзеяч

# ФЭСТЫВАЛЬ У САЎТ-РЫВЭРЫ



*Карагод перад будынкам цэнтру*

4 жніўня ў саўтрывэрскім Беларуска-Амэрыканскім Цэнтры адбыўся традыцыйны фэстываль танцу, песьні - а гэтым разам і сцэнічнага паказу - з усімі забавамі й прыемнасьцямі, уласьцівымі гэтаму сьвяту беларуска-амэрыканскае культуры. На працягу сонечна гарачага дня працавала традыцыйная кухня з жаранінай, галубцамі, блінчыкамі ды іншымі прысмакамі.





*Сьпяваюць беластоцкія госьці*

Адбылася таксама багатая лятарэя. Ад гарачыні можна было ахаладзіцца ў залі з кандыцыянерам ды халоднымі напоямі.

Асабівай рысай сёлетняга сьвята быў дзел у фэстывальнай праграме гасьцей з усходняй Польшчы, з Падляшша - дзьвюх настаўніц і дзесяці вучняў беластоцкай школы, якія вывучаюць беларускую мову. Госьці наведалі беларусаў у Злучаных Штатах на запросіны Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) пры выдатнай дапамозе рэалізаваць прыезд і побыт з боку др. Алы Орса-Рамана.

Таленавітыя юначкі й юнакі ўзбагацілі праграму фэстывалю паказам п'есы Леаніда Дранько-Майсюка "Цацачная крама" (музыка настаўніцы Анны Бабік). П'еса пабудаваная на маналёгах і дыялёгах розных хатніх жывёлаў, некаторыя зь якіх, як прыкладам адна "абчыная сьвіньня", жывуць у загарадзі каля свайго карыта й задаволеныя з такога жыцьця.

Бацькі вучняў-актораў, як і іхнія настаўніцы – др. Барбара Пякарская й сп-ня Аліна Ваўранюк - належаць да дзейнага на Падляшшы ўжо 17 гадоў "Аб'яднаньня ў карысьць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову" (называнага коратка "Аб'яднаньне бацькоў"). За 17 гадоў свайго існаваньня гэтая арганізацыя прарабіла вялікую справу ў культываваньні беларускае літаратурнае мовы й захоўваньня падляскіх дыялектаў, якімі карыстаюцца яшчэ многія жыхары Падляшша. Аб'яднаньне займаецца таксама выдавецкай дзейнасьцю (выдае кніжкі, брашуры, дыскі зь песьнямі й да гэтага падобнае). Паводле аднаго з праектаў, вучні наведваюць старэйшых жыхароў, запісваюць ад іх іхнай жа мовай успаміны з маладосьці ды з пражытых гадоў, традыцыйныя абрады, розныя здарэньні, вясёлыя й сумныя, у тым ліку з ваенных часоў.

Старшыня "Аб'яднаньня бацькоў", др. Пякарская, за выдатную працу ў перахоўваньні культурнай спадчыны й мовы атрымала з рук прэзыдэнта Польшчы залаты мэдаль.

Шмат адукацыйна-культурных абавязкаў у "Аб'яднаньні бацькоў" выконвае заслужаная настаўніца сп-ня Аліна Ваўранюк.

Пасьля паказу п'есы на траўніку, што паміж будынкам Цэнтру й царквой, адбыліся танцы й сьпевы пад музыку Валянціна й Тацьцяны Дзямешчыкаў.

Падрыхаваць і правесьці фэстываль вымагае вялікае працы й арганізацыйных захадаў. Прыхаджане царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай разумеюць важнасьць такіх фэстываляў, якія сьведчаць пра сацыяльную й культурную энэргію грамады. Таму людзі й сёлета ахвоча падтрымалі і працаю, і матэрыяльнымі ахвяраваньнямі фэстывальную ініцыятыву кіраўнікоў царквы й Беларуска-Амэрыканскага



*Фінал "Лянка"*

Цэнтру.

Вось прозьвішчы асобаў (у альфабэтным парадку), якія забясьпечылі арганізацыйную, гаспадарчую й абслугоўвальную частку фэстывалю: Арцішэнка Алекс, Арцішэнка Жорж, Арцішэнка Соня, Бахар Нік, Бубен Джон, Бычкоўскі Нік, Данілюк Ліда, Дзямешчык Валянцін, Дзямешчык Вольга, Дзямешчык Сяргей, Дзямешчык Таня, Лабовіч Нік, Лешчанка Дэбі, Лешчанка Жорж, Леўчук Віталія (кіраўнічка танцавальных гурткоў "Лянок" і "Зорачкі"), Ляшэнка Паліна, Махнач Боб, Мыжэвіч Вера, Мэрлоў Білы, Мэрлоў Вікторыя, Мэрлоў Кейты, Наумчык Жорж, Наумчык Марыя, Наумчык Надзя, Томара Кэйты, Тур Аманда, Тур Лілі, Юхнік Анна, Юхнік Рыта.

У гуртку "Лянок" танцавалі: Бялагловы Кася, Анна і Юля, Дзямешчык Вольга, Зэкава Людміла, Кузьміцкая Ліза, Лешчанка Мэліса, Сурмач Ганна-малодшая й Ярыгіна Вольга.

А танцорамі ў "Зорачках" былі: Зэкаў Мікіта, Карніенка Кіра, Катэнка Даша, Кузьміцкі Даніла, Сурмач Джастын і Сурмач Трыніты.

Сьпявалі солё: Вольга Дзямешчык, Мікіта Зэкаў, Кіра Карніенка, Ліза Кузьміцкая, Паліна Ляшэнка й Вольга Ярыгіна.

У нядзелю беластоцкія госьці наведалі царкву Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку. Сп-ня Аліна Ваўранюк расказала ў дэталях пра адукацыйную й культурную дзейнасьць на Беласточчыне, а вучні выступілі зь вязанкай маналёгаў-успамінаў старэйшых суродзічаў "Ой, даўно, даўно...". Усё гэта перададзена аўтэнтычнай падляскай гаворкай, якой на Беласточчыне шмат хто карыстаецца ў міжусобных кантактах.

*Янка Запруднік*



*Беластаччане ў залі царквы Жыровіцкай Маці Божай у Гайленд Парку. Фоты Надзі Запруднік*

# Сьвяткаваньне Дня Беларускай Вайсковай Славы ў Нью-Ёрку



*Імпрэзу адчыняе сп. Расьціслаў Гарошка*

9 верасьня у грамадзка-царкоўнай залі на Атлянтык Авэню ў Нью Ёрку было ўрачыста адзначана вялікае сьвята - Дзень Беларускай Вайсковай Славы, якое традыцыйна адзначаецца 8 верасьня патрыятычнай беларускай грамадзкасьцю на Бацькаўшчыне і ў замежжы.

Пад час нядзельнай Багаслужбы ў царкве а. Леанід Акаловіч прачытаў малітву ў памяць усіх беларускіх герояў, што загінулі за Бацькаўшчыну ў вайсковым і патрыятычным змаганьні. Пасьля гэтага ўрачыстасьці працягнуліся ў залі. Сп. Зянон Пазьняк выступіў са зьмястоўнаю прамоваю, дзе яскрава вытлумачыў вялікую гістарычную значнасьць бітвы пад Воршаю 1514 году, у гонар якой і адзначаецца Дзень Славы. Ён асабліва падкрэсьліў, што гэта была бітва за перамогу сьвятла над цемраю, змаганьне паміж двума сьветамі – эўрапейскім і усходне-расейскім. Войскі ВКЛ прадстаўляі дэмакратычную, высокакультурную дзяржаву, а войскі Масковіі наадварот – таталітарную царскую ўладу. І таму Вялікае Княства Літоўскае перамагло ў гэтай жорсткай бітве і захавала сваю самастойнасьць яшчэ на доўгі гістарычны перыяд.

А. Леанід распавёў пра тое, што бітва пад Воршаю засталася навечна ў памяці нашага народу, які стварыў песьні пра гэтую падзею. Прысутныя маглі якраз і паслухаць ў запісе адну з гэтых песьняў у выкананьні гурта “Стары Ольса”, а таксама гімн “Багародзіца”, які выконваўся ваярамі перад бітваю.

*Ганна Сурмач*

# Бел-чырвона-белы сьцяг на Кьерагболце ў Нарвэгіі



Малады беларус падняў нацыянальны сьцяг на знакамітым камяні, які застраг між двума скаламі.

Кьёрагболт называюць самым небясьпечным каменем у сьвеце. І ня толькі таму, што ён вісіць над прорваю глыбінёю каля кіляметра, але і таму, што парыў ветру можа зьнесьці зь яго чалавека.



# Прайграла, але не прадула: Вікторыя Азаранка застаецца першай ракеткай сьвету



У Нью-Ерку прайшоў апошні ў гэтым сэзоне турнір "Вялікага шлема", адкрыты чэмпіянат ЗША, US Open. Беларуская тэнісыстка Вікторыя Азаранка выйшла ў фінал турніру, пад час якога 9 верасьня сыграла са знакамітаю Сэрэнаю Уільямс.

Вікторыя прайграла першы сэт, бліскуча выйграла другі, узяўшы дзьве падачы. У трэцім вяла 5:3, але саступіла, упарта змагалася да канца, чым выклікала сымпатыі гледачоў і сваёй суперніцы.

Сэрэна Уільямс стала пераможцай US Open, але, нягледзячы на пройгрыш, наша суайчыньніца захавала за сабой званьне першай ракеткі сьвету ў рэйтынгу WTA. На другую пазыцыю ўзьнялася расіянка Марыя Шарапава, на трэцім апынулася Агнешка Радваньска з Польшчы. Чэмпіёнка амэрыканскага тэніснага турніру Серэна Уільямс так і засталася чацьвёртай.

# У Менску ўстанавілі помнік Руслану Салею




На Усходніх могілках у Менску 8 верасьня быў урачыста адчынены помнік трагічна загібламу год таму ў авіякатастрофе пад Яраслаўлем знакамітаму хакеісту, былому капітану зборнай Беларусі Руслану Салею.

# Беларусы заваявалі 10 мэдалёў на Параліміпядзе ў Лёндане

Пяць залатых, два срэбраныя і тры бронзавыя мэдалі заваявалі беларускія спартоўцы на завершаных 9 верасьня летніх Паралімпійскіх гульнях. Зь іх шэсьць узнагародаў займеў 18-гадовы плывец Ігар Бокій — пяць залатых і 1 срэбны. У медальным заліку Беларусь заняла 25-е месца.

## Памёр Алесь Петрашкевіч



Памёр драматург і сцэнарыст Алесь Петрашкевіч, аўтар п'есы "Напісанае застаецца" і суаўтар сцэнара сэрыялу "Час выбраў нас".

Разьвітанне прайшло ў зале цырымоній лечкамісіі 26 жніўня 2012.

Алесь Петрашкевіч нарадзіўся 1 мая 1930 г. у вёсцы Пярэвалачня Талачынскага раёна Віцебскай вобласьці. Аўтар сцэнароў мастацкіх і дакумэнтальных фільмаў, кандыдат гістарычных навук, заслужаны работнік культуры Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за ўдзел у падрыхтоўцы і выданьні Беларускай Савецкай Энцыклапэдыі.

## Сьв. памяці Віктар Харэвіч (25.12.1926 – 26 ліпеня 2012)






*Фота зь мясцовай газэты, беларуская дэлегацыя на прыёме ў мэрыі, Віктар Харэвіч - крайні справа*

На 86 годзе жыцьця ў Канадзе, у Ашаве, памёр Віктар Харэвіч. Ён быў адданым грамадзка-рэлігійным дзеячам. Заўсёды браў дзейсны ўдзел ва ўсіх беларускіх імпрэзах. Разам з жонкаю-украінкаю яны актыўна падтрымлівалі беларускае грамадзкае жыцьцё. Сп. Віктар быў адным з заснавальнікаў і актывістаў беларускага таварыства - Беларуская Самапомач у Ашаве, якое славілася сваёй дзейнасьцю сярод мясцовых беларусаў.

У Ашаве жыло 17 беларусаў з паваенной хвалі эміграцыі, сп. Віктар быў апошнім зь іх, згасла апошняя беларуская сьвечка ў гэтым горадзе. Вечная яму памяць! Няхай будзе яму лёгкаю канадыйская зямля!

## Памёр Уладзімер Пузыня



18 верасьня пайшоў з жыцьця славуты беларускі музыка, майстар старажытных народных інструмэнтаў Уладзімер Пузыня. Яму было 72 гады.

Нарадзіўся Ўладзімер Пузыня 26 лютага 1940 году ў вёсцы Суцін на Любаншчыне. Паходзіў са шляхецкага роду. У Магілёве скончыў школу мастацтваў, дзе вучыўся рэстаўрацыі. А ўжо ў 70-я стаў сам рабіць старажытныя інструмэнты — дуды, ліры, сурму.

Вельмі важна, што ён быў ня проста майстра, а вельмі шчыры і апантаны чалавек. Ён любіў Беларусь не па загадзе, ад шчырага сэрца. Быў глыбокім патрыётам.

## Падзяка

Анатоль Тальянскі зь Нью-Ёрку і бацькі хлопчыка Ярослава выказваюць самую шчырую падзяку асабіста сп. Марыі Ганько з Канады ды ўсім шчырым людзям, за чуласьць, дабрыню ў сэрцы ды за іх ахвяраваньні сродкаў на лячэньне.

## ЗАПРАШЭНЬНЕ

Дарагія сябры!

Запрашаем Вас на БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ, што ўжо шмат гадоў праводзіцца пад час папулярнага фэсту "Атлянтык Антык".

Тут вас будуць чакаць шмат сяброў, стравы беларускай кухні, музыка, выставы, цікавыя відэафільмы. А прагульваючыся ў гэты час па Атлянтык Авеню вы пабачыце ўсё багацьце культур Нью-Ёрку, пакаштуеце ежу розных народаў сьвету, зможаце набыць упадабалыя тавары ад мноства гандляроў, пачуеце розных музыкаў і артыстаў, пабачыце парады аркестраў.

Гэта будзе запамінальнае сьвята!

30 верасьня 2012 г. пачынаючы ад 10:00 раніцы.
Адрэса: 401 ATLANTIC AVE, BROOKLYN NY , ЦАРКОЎНАЯ РАДА САБОРУ Сьв.КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА БАПЦ

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| 1.Беларускі цэнтр (South River) | $ 50 |
| 2.Кастусь Вайцехоўскі | $ 50 |
| 3.Марыя Ганько | $ 100 |
| 4.Марыя Ганько (замест кветак на магілу Віктара Харэвіча з Ашавы) | $ 100 |
| 5.Яўген Завістовіч | $ 50 |
| 6.Вольга Іпатава | $ 50 |
| 7.Віктар Колас | $ 25 |
| 8.Сяржук Капытка | $ 50 |
| 9.Леанід Шурак | $ 100 |
| 10.Вікторыя Малаева | $ 50 |
| 11.Надзея Лысак | $ 50 |
| 12.Ліза Літаровіч | $ 60 |
| 13.Вольга Нарушэвіч | $ 100 |
| 14.Людміла Рагуля | $ 100 |
| 15.Валянціна Якселіс | $ 20 |
| 16.Яўген Груша | $ 100 |
| 17.Анастасі Станкевіч | $ 50 |

**Шчыры дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне**

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
**Belarusan American Ass'n, Inc.**

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая - адказная за камп'ютарную вёрстку
Андрусь Падлескі – сябра рэдакцыі
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** *BIELARUS newspaper* дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*